# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 7 (1605) ГОД XXXII БЕЛАСТОК, 15 ЛЮТАГА 1987 г. ЦАНА 12 зл.




Кадр з фільма „Над Нёманам". Юсціна Карчынская (Івона Паўляк) і Ян Багатыровіч (Адам Мар'янскі).

Раман Элізы Ажэшка „Над Нёманам" прыналежыць да „залатога фонда" польскай літаратуры. Спаўняецца якраз сто гадоў ад напісання гэтага твора.

Усё пачалося так. Лета 1886 года Эліза Ажэшка правяла ў маёнтку Мяневічы, што на Гродзеншчыне, у наднёманскім краі. У лісце да аднаго з найбольш давераных сяброў, па прозвішчу Мает, яна паведамляла:

*„Два месяцы знаходжуся я ўжо на вёсцы. Спачатку тут я нічога не рабіла, толькі поўнымі грудзьмі дыхала чыстым паветрам і захаплялася прыгажосцю летняй пагоды ды вясковай цішыні. Мінула, аднак, ужо некалькі тыдняў, як сабралася я пісаць вялікі двухтомны раман, які назаву „Над Нёманам".*

Гэты раман узнік „па заказу". Заказчыкам быў рэдактар „Тыднёвіка Паўшэхнага", Мар'ян Гавалевіч, які два гады раней наведаў пісьменніцу ў Гродне і дагаварыўся з ёю, што слаўны тады ўжо аўтар звыш сарака літаратурных твораў напіша *„раман пра жыццё вясковых абывацеляў і засцянковую шляхту"*, як паведамляў ён сваім чытачам позняй восенню 1884 г. Значыць, пісьменніцы спатрэбілася амаль два гады, каб сфармаваўся канчатковы вобраз гэтага эпічнага твора пра сучасныя ёй справы і праблемы. Вялікі ўплыў на змест „Над Нёманам" мела знаёмства Элізы Ажэшка з уласнікам маёнткі Мяневічы — Янам Каменскім, актыўным удзельнікам паўстання 1863 года, якое на беларускалітоўскіх землях было апавешчана не ў студзені, як у Польшчы, а 3 сакавіка таго ж года. Я. Каменскі ад імя паўстанцкага Нацыянальнага ўрада выконваў абавязкі цывільнага начальніка ў Гродзенскім павеце. Эліза Ажэшка — сама актыўная ўдзельніца гэтага ж паўстання (была сувязною дыктатара Траўгута і санітаркай) — здаўна добра ведала Я. Каменскага і ўсю




яго сям'ю. І вось пасля звыш 20-гадовай ссылкі ў Сібір, Я. Каменскі вярнуўся ў свае Мяневічы, дзе па вялікім пажары Гродна ў 1885 годзе, лета праводзіла таксама і яна, Эліза Ажэшка. У час супольных успамінаў ажывалі дні паўстання.

Ужо пасля двух месяцаў працы над гэтым раманам, 9 кастрычніка 1886 года Э. Ажэшка зноў (ужо з Гродна) паведамляла таму ж Маету:

*„Раман будзе трохтомны і, калі не прыгожы, дык прынамсі поўны рэчаў вельмі новых. Галоўная крыніца яго асновы — гэта паўстанне 1863 года..."*

Праца спорылася. З пачаткам 1887 года (значыць, роўна сто гадоў таму назад) са зместам рамана „Над Нёманам" штотыдзень (на працягу ўсяго года) знаёміліся чытачы найбольш тады папулярнага сярод польскай інтэлігенцыі **„Тыднёвіка Ілюстраванага"** (выйшла, што не „Паўшэхнага", ад заказу якога ўсё і пачалося). Першае кніжнае выданне гэтага трохтомнага рамана паявілася ў пачатку 1888 года. Э. Ажэшка вельмі клапацілася пра гэта. Свой твор яна лічыла падарункам, прысвечаным на 25-ыя ўгодкі Студзеньскага паўстання. За кароткі час (на працягу двух гадоў) чытачы раскупілі аж тры чарговыя выданні гэтага рамана. Чацвёртае выданне забараніла царская цэнзура, якой не падабаўся поспех гэткай эпапеі пра патрыятызм ды свабодалюбівыя імкненні польскай грамадскасці. Раман Э. Ажэшка крытыкі і гісторыкі літаратуры часта супастаўляюць з „Панам Тадэвушам" — нацыянальнай эпапеяй у вершах А. Міцкевіча.

І вось цяпер, напярэдадні 125-ай гадавіны Студзеньскага паўстання 1863 г., пабачылі мы „Над Нёманам" у новым увасабленні — на экране кіно, у каляровым фільме. Зрабіў гэта рэжысёр Збігнеў Кузьмінскі, чалавек, здаецца, не менш Э. Ажэшка закаханы ў прыгажосць наднёманскага краю, з глыбокай ве-

(Працяг на стар. 6)

## ВЫСТУПАЮЦЬ АМАТАРЫ

Галоўнае праўленне БГКТ, рэдакцыя тыднёвіка „Ніва" і праўленні аддзелаў БГКТ, па прыкладу мінулых год, арганізавалі ў 1987 годзе для членаў і сімпатыкаў БГКТ конкурс „Беларуская песня-87" і агляд аматарскіх тэатральных калектываў. У сувязі з гэтым ГП звярнулася з сардэчнай просьбай узяць удзел у арганізацыі гэтых культурных імпрэз да Аддзела культуры і мастацтва Ваяводскай управы ў Беластоку, Ваяводскага дома культуры і Ваяводскага праўлення ТППР, ВП ЗСМП, ВП ЗМВ, Ваяводскага саюза сельскагаспадарчых кааператураў і Ваяводскага саюза сялянскіх кааператываў і арганізацый сялян, РСВ „Прэса", Ваяводскага пагаднення прафсаюзаў, Сполэм, Дамоў культуры ў Беластоку, Бельску Падляшскім, Гайнаўцы, Сямяцічах, Саколцы і Дуброве. Усе гэтыя арганізацыі абяцалі фінансавую падмогу, транспарт і прапаганду імпрэз сярод сваіх працаўнікоў і падначаленых секцый. Юзэф Сыкульскі, намеснік старшыні прафсаюзаў, абяцаў даць месца на інфармацыі аб дзейнасці БГКТ у сваім бюлетэні.

Мэта аглядаў — распаўсюджанне аматарскай мастацкай дзейнасці, папулярызацыя народных і сучасных беларускіх песень, папулярызацыя тэатральнага мастацтва, вылаўліванне таленавітых адзінак.

**У** аглядзе „Беларуская песня-87" бяруць удзел салісты і калектывы вакальныя і вакальна-інструментальныя — ад дуэтаў да актэтаў (у выпадку, калі ў калектыве больш, чым 8 асоб, ён можа прымаць удзел на такіх жа ўмовах). Узрост удзельнікаў — ад 14 год (уключна з моладдзю з сярэдніх школ). Удзельнікі падрыхтоўваюць дзве беларускія песні (фальклорныя ці сучасныя) і спяваюць іх на аглядзе. Лаўрэаты папярэдніх аглядаў не могуць паўтараць рэпертуару. Агляд — двухступенны. Раённыя агляды ў Бельску, Гайнаўцы і Сямяцічах адбудуцца ўжо 15 лютага. Цэнтральны агляд пабачым 28 лютага (субота) і 1 сакавіка (нядзеля). Калектывы з Варшавы і Гданьска выступаць будуць на цэнтральным аглядзе. Агляд праводзіцца ў катэгорыях:

— аўтэнтычная фальклорная песня,

— апрацаваная фальклорная песня (без акампанементу),

— апрацаваная фальклорная песня (падрыхтаваная з інструктарам),

— сучасная песня (без інструктара),

(Працяг на стар. 6)




## АБ УЗБАГАЧЭННІ (2)

Зразумела, што дабрабыт у Народнай Польшчы не мае татальнага характару. Нямала ў нас людзей, якія з такіх ці іншых прычын жывуць бедна. А якія гэта прычыны? Розныя. Самотнасць, хваробы, старасць. І гэта, так сказаць, фактары аб'ектыўныя. Але можна было б у многіх выпадках гаварыць аб суб'ектыўных, да якіх трэба было б аднесці: п'янства, абыякавасць, незараднасць. Многія людзі, асабліва маладыя, мучацца з прычыны, што не маюць кватэр, і, як вядома, перспектывы ў гэтай галіне даволі песімістычныя. Мяне асабіста агортвае боязь. Звязана яна з маімі сумненнямі, ці ўдасца ў нас утрымаць дасягнуты ўзровень жыцця. На чым грунтуецца мой песімізм? На многіх момантах.

Па-першае, у Польшчы назіраецца значны, даволі высокі дэмаграфічны прырост. Па-другое, зямлі — нашай найважнейшай карміцелькі — не толькі не прыбывае, а наадварот, з кожным годам, а нават з кожным днём меншае. Па-трэцяе, якасць працы ў нашай краіне, якая магла б кампенсаваць вялікі прырост і ўбыткі зямлі, у нас вельмі нізкая. Па-чацвертае, як вядома, Польшча вельмі моцна задоўжаная і, хацеўшы сплаціць даўгі, мусіла б многае аднімаць ад рота ва ўласных грамадзян. Па-пятае, з кожным годам усё болей вычэрпваецца сыравіна і некаторай увогуле ўжо не будзе праз некалькі дзесяткаў гадоў. Па-шостае, насуперак легендзе аб тым, што Польшча вельмі багатая сыравінай, у сапраўднасці наша краіна пазбаўлена найбольш перспектыўных сыравін: нафты, жалезнай руды і газу. Па-сёмае, развіваюцца ў нашай краіне няшчасці, як алкагалізм, наркаманія, камбінатарства, злачынствы.

Мог бы хтосьці сказаць, што ёсць краіны ў свеце, намнога бяднейшыя сыравінай, чым Польшча, а стварылі магутную прамысловасць і сёння цэламу свету дыктуюць гаспадарчыя варункі. І гэта праўда. Ёсць такія краіны. Такой краінай з'яўляецца, напрыклад, Японія. І здавалася б, што можа быць прасцейшае? Узяць прыклад з Японіі! Увесці ў жыццё яе метады — і вырашацца ўсе нашы праблемы. Зрэшты, некалькі гадоў таму назад быў у нас адзін такі пан. Імкнучыся пераліцытаваць Герка, які сказаў, што збудуе другую Польшчу, ён абяцаў збудаваць другую Японію. Вядома аднак, што ўсё гэта толькі наіўныя казачкі. Чаму? Таму, што ніхто з нас няздольны да такой самаахвярнасці і дысцыпліны, да якой здольныя японцы. Прывяду толькі адзін прыклад. У багатай сёння Японіі сярэдні водпуск рабочага раўняецца пяці-сямі дням у год, а канікулы дзяцей — два тыдні ў год. Многія рабочыя, зрэшты, не бяруць водпуску ўвогуле. Ці ўяўляем, што было б у нашай краіне, калі б урад ці прафсаюз запрапанаваў нашым рабочым пяціднёвы водпуск? Я сабе гэтага не ўяўляю.

Не ведаю, ці ўсе памятаюць тое, што некалькі гадоў, калі стан нашай гаспадаркі быў яшчэ горшы, чым сёння, нашаму ўсяму грамадству, па-за сялянамі, быў дадзены перапынак у рабоце, які працягваўся адзінаццаць дзён. Праўда, многія дні з гэтага перапынку былі як бы адпрацаваны. Ці можна аднак адрабіць страты гаспадаркі, якая была затрымана аж на адзінаццаць дзён? Я асабіста ў такую магчымасць не веру.

І вось, між іншым, з такіх прычын агортвае мяне песімізм, калі гаворым аб будучыні. Ці ёсць выхад? Ці ёсць

(Працяг на стар. 6)




### БЯСПЕКА ПРАЦЫ

10 студзеня ў Мінску адбыўся рэспубліканскі сход партыйна-гаспадарчага актыву кіруючых кадраў, які абмеркаваў задачы па ўмацаванню дысцыпліны, арганізаванасці, павышэнню адказнасці ў справе забеспячэння бяспекі на вытворчасці.

Аднадзначна, што бяспека працы на многіх прадпрыемствах рэспублікі забяспечваецца незадавальняюча. У свядомасці многіх кіраўнікоў укаранілася думка, што з ліквідацыяй ручных і фізічна цяжкіх аперацый бяспека працы ўжо гарантавана. Памылка. Амаль палавіна няшчасных выпадкаў з цяжкімі вынікамі адбываецца іменна пры эксплуатацыі тэхнічна складанага абсталявання. Рэзкай крытыцы падвергся Дзяржаграпром рэспублікі. У большасці яго гаспадарак дрэнна наладжана інструктаванне і абучэнне работнікаў, нізкая арганізацыя і дысцыпліна працы. Сур'ёзную заклапочанасць выклікае стан спраў з забеспячэннем бяспекі на аўтамабільным, чыгуначным і авіяцыйным транспарце. Асноўныя прычыны аварый — нізкая дысцыпліна, грубыя парушэнні правіл руху, п'янства.

### НАРОДНЫ КАНТРОЛЬ

На пашыраным пасяджэнні Камітэта народнага кантролю БССР падкрэслівалася, што камітэт, яго органы на месцах яшчэ недастаткова актыўна перабудоўваюць сваю дзейнасць, не ў поўнай меры забяспечваюць пастаянны, дзейсны кантроль за выкананнем планаў развіцця навукова-тэхнічнага прагрэсу, удасканаленнем работы апарату кіравання, валакіты і паператворчасці, ведамаснага падыходу. Недастаткова вядуць барацьбу з парушэннямі дагаворнай дысцыпліны, выпускам няякаснай прадукцыі.

### У БРЭСЦКІХ ТКАЧОЎ

Электроніка прыйшла на дапамогу ткачам Брэсцкага вытворчага дывановага аб'яднання. Сумесна са спецыялістамі фірмы „Тэкстыма" (ГДР) работнікі прадпрыемства ўвялі ў дзеянне першы рапірны ткацкі станок. У ім аўтаматызавана большасць працэсаў, а прадукцыйнасць у паўтара раза вышэйшая, чым у тэхнікі ранейшых канструкцый. Агрэгаты простыя ў абслугоўванні і доглядзе, забяспечваюць разнастайнасць дывановых узораў, высокую якасць вырабаў і працуюць практычна бясшумна.

Цяпер у аб'яднанні манціруецца яшчэ пятнаццаць такіх машын, што дазволіць без павелічэння колькасці ткачоў павысіць выпуск добротных вырабаў, знізіць сабекошт прадукцыі.

### НОВАЯ БАЛЬНІЦА

У вёсцы Гарадок — цэнтральнай сядзібе калгаса імя Калініна — Маладзечанскага раёна адкрылася ўчастковая бальніца. Механізатары і жывёлаводы змогуць папраўляць тут здароўе, прыняць патрэбныя працэдуры. Будынак бальніцы ўзводзіўся з такім разлікам, каб людзі маглі лячыцца і амбулаторна, і стацыянарна. У новай лячэбнай установе будуць захоўвацца не толькі гісторыі хваробы, але і пашпарты здароўя вяскоўцаў. Кожны сельскі працаўнік пройдзе тут комплекснае медыцынскае абследаване.

### АБ СКІДАЛЬСКІХ ГЕРОЯХ

Гродзенскі абласны лялечны тэатр паставіў новы спектакль „Песня аб героях". Ён прысвечаны подзвігу скідальскіх камсамольцаў-падпольшчыкаў, якія гераічна загінулі ў барацьбе з фашысцкімі захопнікамі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. П'еса напісана рэжысёрам і акцёрам тэатра Вячаславам Корневым.

### БЕЛАРУСКІ ЧАЙ

На беларускі чай запрасілі гараджан і гасцей горада гандлёўцы Віцебска. Чайныя зборы з лугавых і лясных траў, дзікарослых ягад выпусціў мясцовы вінзавод, які поўнасцю мяняе профіль сваёй прадукцыі, як, зрэшты, і сваю назву. Лясгасы вобласці ў летнія месяцы паклапаціліся аб сыравіне для вытворчасці карыснага для здароўя напітку. 10 тон духмяных збораў са зверабою, чабору, мяты, мацярдушкі, глогу падрыхтуюць сёлета па старадаўніх народных рэцэптах віцебскія майстры.




### ЛАЦІНААМЕРЫКАНСКІЯ ПРАБЛЕМЫ

XII сесія савета Лацінаамерыканскай эканамічнай сістэмы (ЛАЭС) прадэманстравала растучую тэндэнцыю да ўмацавання згуртаванасці і адзінства дзеянняў дзяржаў рэгіёна ў выпрацоўцы агульнай пазіцыі па велізарнаму знешняму доўгу.

Знешняя запазычанасць Лацінскай Амерыкі, якая дасягае 380 мільярдаў долараў, сваім паходжаннем у многім абавязана своекарыслівасці міжнародных банкаў і транснацыянальных карпарацый. Яны навязалі рэгіёну гранічна жорсткія ўмовы знешняга фінансавання і выкарыстоўвалі пазыкі для рознага роду махінацый, фінансавання ўласных лацінаамерыканскіх філіялаў, вываду на мясцовы рынак сваёй прадукцыі (у першую чаргу — спажывецкіх тавараў і прадметаў раскошы). У выніку толькі ў выглядзе працэнтаў па прадстаўленых крэдытах краінам Лацінскай Амерыкі трэба выплачваць штогод 35 мільярдаў долараў. Паводле падлікаў ЛАЭС, чысты адток капіталу з рэгіёна ў фінансавыя цэнтры Захаду перавысіў за апошнія 4 гады 100 мільярдаў. На пакрыццё гэтых велізарных выплат ідзе 36 працэнтаў экспартнай выручкі лацінаамерыканскіх краін.

Пытанне ў адносінах да даўгавога цяжару стаіць так: альбо Лацінская Амерыка здолее спыніць гэта жудаснае эканамічнае абяскроўліванне, якое паглынае яе валютныя рэсурсы, альбо яе гаспадарка будзе асуджана на застой і дэградацыю, а мільёны простых лацінаамерыканцаў на далейшае абядненне.

Не менш цяжкім з'яўляецца і прэс гандлёвай эксплуатацыі, якой падвяргаецца Лацінская Амерыка з боку ЗША і іх заходніх партнёраў. Краіны рэгіёна пастаянна нясуць буйныя фінансавыя страты з-за рэзкіх хістанняў цэн на сыравіну і харчовыя тавары, якія складаюць аснову іх экспарту. У 1985 годзе індэкс экспартных цэн знізіўся больш чым на 4 працэнты, што азначае страту прыкладна 4,5 мільярда долараў. Вельмі вострая сітуацыя на сусветных рынках прадуктаў харчавання і сыравіны назіралася і ў 1986 годзе. Велізарныя страты ў апошні час былі нанесены маладым краінам — экспарцёрам нафты ў сувязі з рэзкім зніжэннем цэн на вадкае паліва. Паводле ацэнак ЛАЭС, гэтыя страты могуць скласці ад 70 да 140 мільярдаў. Немалая іх частка прыпадае на долю лацінаамерыканскіх экспарцёраў нафты. Маніпуляцыі міжнароднага капіталу нанеслі вялікія страты Аргенціне, якая пацярпела ад зніжэння цэн на збожжа і мяса, Уругваю — ад зніжэння цэн на воўну. Перу — з-за падзення цэн на гарнарудную сыравіну.

У той жа час лацінаамерыканскім краінам прыходзіцца пераплачваць мільёны долараў у сувязі з тым, што манаполіі ўзвінчваюць цэны на тавары, пастаўленыя імі ў рэгіён. А на шляху рэалізацыі многіх экспартных тавараў рэгіёна: абутку, гатовага адзення, тэкстылю, вырабаў са скуры, чорных металаў — пастаўлены цяжкапераадольныя бар'еры. У 1985-м, напрыклад, удзельная вага рэгіёна ў імпарце ЗША ўпала да рэкордна нізкага ўзроўню — 13,6 працэнта.

Знешні доўг згубна ўплывае на эканоміку лацінаамерыканскіх дзяржаў. Ён прыводзіць да незваротных вынікаў не толькі ў сферы вытворчасці, фінансаў, гандлю. Ад яго пакутуюць бяднейшыя слаі насельніцтва, што натуральна, выклікае масавую незадаволенасць і дэстабілізуе палітычную абстаноўку ў рэгіёне. Знешні доўг даўно перастаў быць проста эканамічнай праблемай.

Л.К.

# ТОЛЬКІ КСЯНДЗОМ І ЛЕКАРАМ НЕ БЫЎ...

У вясковай хаце трое мужчын — бацька і два дарослыя сыны. Жанчыны няма. Мужчыны замятаюць хату і наводзяць у ёй парадак, кормяць свіней і дояць кароў, вараць страву і паляць у печы. У кулінарных справах найлепшы, аднак, бацька. Ён так умее падрыхтаваць страву, што не кожная жанчына так зробіць. А што датычыцца мясных вырабаў, дык ён проста спецыяліст. Каўбасы, „вэкі“, салцісоны, рулет, халадзец у яго выходзяць знакаміта. Нават некалькі асоб прасіла, каб падрыхтаваў мясныя вырабы на вяселле і хрысціны.

Мікалай Максімюк з Рыбалаў, што ў Заблудаўскай гміне, не толькі добры кулінар, але наогул чалавек выключных здольнасцей. Ён сталяр і цясляр, сам будаваў хату і іншыя гаспадарчыя будынкі. Рабіў вокны і дзверы ды іншым у гэтым дапамагаў. І пячнік з яго нядрэнны. У хаце Максімюкоў вялікая кафляная печка і печка-сцяноўка, якія награваюцца хутка, а цяпло трымаюць доўга. А вось цяпер будуе ён сыну вялікі гадаўляны будынак — 24 м × 9 м. Памагае таксама сын, але ўсё робіцца ў асноўным яго спрытнымі рукамі. Калі, напрыклад, было цяжка з абуткам у пасляваенныя гады, Мікалай Максімюк стаў шаўцом, наладжваў абутак не толькі сабе, але і людзям, рабіў таксама валёнкі. А вось зусім нядаўна шкліў вокны сваяку.

— Толькі ў ролі ксяндза і лекара яшчэ я не быў, — жартоўна сказаў дзядзька Мікалай.

Гаспадар з яго таксама нядрэнны. Ёсць у яго і трактар, і малацілка, і іншыя машыны і прылады. У мінулым годзе заінвеставаў ён у сваю гаспадарку больш 1 мільёна злотых і не звяртаўся ў банк за пазыкай. Яго гаспадарка дае вялікія даходы. У 1984 годзе прадаў ён дзяржаве прадуктаў на 477 тысяч злотых, у 1985 — на 605 тыс. зл., недзе каля паўмільёна збярэцца і за 1986 год (было крыху менш, бо не садзілі трускалак).

Мікалая Максімюка наведаў я перад днём Савецкай Арміі, каб павіншаваць яго, бо быў ён калісь салдатам гэтай арміі. Немцы вывезлі яго на прымусовыя работы ва Усходнюю Прусію, але як толькі гэтыя мясцовасці былі вызвалены, Мікалая Максімюка як беларуса мабілізавалі ў Савецкую Армію. Яшчэ пад Вроцлавам быў ён на перадавой лініі, а ў Судэтах дайшла да іх вестка аб капітуляцыі. У Савецкай Арміі служыў ён да 7 лютага 1947 года.

У 1948 годзе ажаніўся, прыйшоў у прымакі да сваёй жонкі. Выгадавалі яны трох сыноў і дачку. Дачка і сын ужо сямейныя і не жывуць у Рыбалах. Два гады таму назад у Максімюка памерла жонка.

— Прыгожая была яна ў мяне, — сказаў ён, — і прынёс яе партрэт, які беражліва выняў з паперы. — Марысяй яе звалі, — і доўга глядзеў, маркотны і прыгаслы. І я глядзеў моўчкі.

— Хаця я ў хаце не адзін, хаця ёсць яшчэ сыны Віктар ды Саша, які ўжо жэніцца, то ўсё ж адчуваю сябе самотным. Ажэніцца Віктар — і што тады? Маю на прыкмеце кабету, таксама самотную, як і я, — прызнаецца ён шчыра, — мусіць, перабяруся да яе. Вось толькі памагу яшчэ сыну пабудаваць гадаўляны будынак. Я ж на яго перапісаў гаспадарку, бо сам ужо пенсіянер...

Аднавяскоўцы ўжо другі раз выбралі Мікалая Максімюка старшынёю сельскагаспадарчага гуртка.

**Міхась Хмялеўскі**

Фота Я. Чэрнякевіч



Мікалай Максімюк.

## НАША ПОШТА

### ЗНАЙШОЎ

У „Ніве“ № 44 ад 2.XI.1986 г. была надрукавана аб'ява пра мае пошукі „Навуковага зборніка“, выдадзенага ГП БГКТ у 1964 г. У чытачах нашага тыднёвіка бачыў я сваю апошнюю надзею. І не памыліўся. Неўзабаве прыйшла на мой адрас пасылка са зборнікам ад Міколы Давідзюка з Лодзі. Сябра М. Давідзюк нават не схацеў узяць грошай. Напісаў ён: „Гэта падарунак пад ёлку“. Шчыра дзякую вам, сябра, за гэты падарунак! Дзякую таксама і Аляксандры Бергман з Варшавы, якая прапанавала мне сваю дапамогу ў пошуках кнігі. Аказваецца, што на людзей можна разлічваць!

**Пётр Байко**

— Рабочыя цяпер зарабляюць больш за інтэлігентаў, — заявіў ён. — І абы-чаго есці не захочуць.

Хай і так будзе. Я ўжо гадоў дваццаць хаджу ў інтэлігентах з аўсянай радаслоўнай, дык мне і гэтае „абы-што“ таксама выдатна смакуе. Толькі чаму „яно“ цяпер на 34 зл. даражэйшае? Раней італьянскі („влоскі“) сальцісон каштаваў 148 зл., цяпер — 182 зл. за кілаграм.

Вось гэтае „чаму“ і было галоўнай тэмай прэс-канферэнцыі ў ваяводы. Вядома, гаварылася не толькі пра адзін сальцісон, але і пра ўсе іншыя вырабы з вантробаў, на якія ў студзені гэтага года паявіліся новыя цэны. Падаражэла таксама і смятана.

Найперш ваявода Е. Слезак спасылаўся на многія пастановы Сейма і Рады Міністраў, зачытаў нумары адпаведных загадаў міністраў фінансаў і гандлю, успомніў пра правіла гаспадарчай рэформы, каб усім гэтым даказаць, што сур'ёзна рашалася справа цэн на вантробы. Проста ўсім яна ўелася ў вантробы. Аж урэшце-рэшт было пастаноўлена, што смятана ды вырабы з вантробаў пераводзяцца са спіску тавараў, на якія ўстаноўлены цвёрдыя ўрадавыя цэны, у спісак тавараў з „умоўнымі цэнамі“. І гэтым самым дзяржава перастае даплачваць мясакамбінатам ды ўсялякім каўбасным да прадукцыі гэтага асартыменту.

Дырэктар Беластоцкага мясакамбіната М. Ладны заявіў:

— У пятніцу, 2 студзеня, між Новым годам і свабоднай суботай я нечакана даведаўся, што ад 1 студзеня маё прапдрыемства пазбаўляецца дзяржаўнай даплаты на вырабы з вантробаў. Давялося хуценька прымерыцца да новых, „умоўных“ цэнаў, або спыніць прадукцыю, бо ніхто са здаровым розумам не будзе добраахвотна ды самагубна пхацца ў пятлю. Жывем мы ва ўмовах строгіх правіл гаспадарчай рэформы і ніхто нікога не прымусіць выпускаць дэфіцытныя тавары.

Беластоцкі мясакамбінат кожны дзень прадукуе нейкіх шэсць тон вырабаў з вантробаў. Да гэтага яшчэ больш-менш адну тону дакладаюць каўбасныя майстэрні, падпарадкаваныя вясковаму гандлю. Усяго гэтага мала, бо, як вядома, такі тавар у крамах не залежваецца. Не толькі адзін я люблю сальцісон і кашанку. Гэтыя дэлікатэсы перш за ўсё ядуць вясковыя і гарадскія пенсіянеры і рэнцісты, у якіх зусім ужо ўстарэў іхні пенсійны кашалёк (чытай: партфель) і кожная залатоўка здаецца ім на вагу золата.

Сабраліся тады дырэктары ад прадукцыі і ад гандлю (гарадскога і вясковага), ды і пачалі дамаўляцца пра цэны. Ад таго яны і называюцца цэнамі ўмоўнымі. Дырэктары ад прадукцыі — з дырэктарам Мечыславам Ладным на чале як галоўным вытворцам, вядома, хацелі падбіць калыску з цэнамі як мага вышэй. Дырэктары ад гандлю

(Працяг на стар. 6)




### ПАНІЖАЮЧЫ КАГОСЬЦІ, ПАНІЖАЕШ І СЯБЕ

У адной маленечкай вёсцы, што каля чыгункі, жыве стары кавалер. Ён часта хварэе і пенсію мае, але ўсё-такі не здаецца. Са сваякамі сварыцца, колькі ўлезе. Ніхто не просіць яго ў госці і сам ён нікога не запрашае. Не хоча, каб і дапамагаў яму хтосьці.

Усё падазрае сваякоў, што яны хочуць забіць яго, зарэзаць. Калі жыў у старой сваёй хаце, то пад зіму хадзіў да суседзяў прасіцца, каб пусцілі яго хтосьці да сябе зіму перазімаваць. Аднак, калі нехта згаджаўся, дык ён пасля казаў, што не пойдзе зімаваць, бо ўжо раздумаў. Вядома, людзі пасмейваліся з яго.

Пасля збудаваў стары кавалер дом сабе, новы і на новым пляцы. Не вельмі зайздросны быў гэта будынак, таму і казалі зласлівікі: куратнік паставіў! І хоць ён, гэты стары кавалер, пабудаваўся аднова і не ў тым жа самым месцы, то і тут спакою з ім няма. Ён дайшоў аж да такога азарту, што нават пчол аднаго сваяка палічыў асабістымі ворагамі.

— Вы толькі глядзіце, людзі, — гаворыць ён. — Гэта ж падумаць, як наш Васька пчол сваіх вывучыў: усё лётаюць яны без патрэбы і мяне кусаюць!

Ну, чыстая бяда з гэтым старым кавалерам.

А дом свой новы паставіў так, што ў ім трое дзвярэй знадворку. І на кожных дзвярах ёсць вялізная засаўка ды ланцуг удадатак.

— Гэта, каб Васька той не прыйшоў няпрошаным, бо задушыць ён мяне хоча, падушкаю твар заціснуўшы...

І жыве стары кавалер у гэтым доме, бы ў крэпасці якой або ў франтавым доце.

Робіць сваю гаспадарку, хоць сэнсу завялікага гэта не мае, ані трохі не аплачваецца. Дзе-які грош прыдбае, то ўсё ў гаспадарку прасадзіць. Часта просіць работнікаў чыгункі, каб дапамаглі яму збожжа пазвозіць з поля і змалаціць, альбо дроваў напілаваць і нарубаць. За гэта фундуе ім пад добрую закуску, бо без такое фунды хто ж гэта сёння каму ў чым паможа?! Больш таго п'янства, чымсьці работы.

Аднаго разу малацілі яму гэтыя памагатыя збожжа і ў снапах жыта знайшлі два літры спірту. Спірт гэты прыхаваў быў стары кавалер і, па старасці сваёй, забыўся. Спірт ратаі выпілі і нават не паскручвала іх, а работы ў той дзень ужо не было.

Узімку стары кавалер ходзіць, хадулёю падпіраючыся. Цераз вёску не ідзе, не хоча, кажа: смяяцца з мяне будуць, што так, во, хаджу, падпіраючыся...

Жыве стары кавалер, поўны дзівацтваў. Не трэба з іх смяяцца, у кожнага чалавека ёсць права на свае дзівацтвы, зрэшты, кожны з нас дзівак крыху, калі паглядзець на сябе збоку, чужым вокам. Культурнасць чалавека, між іншым, і выяўляецца ў цярпімасці; чым больш хто некультурны, тым больш

(Працяг на стар. 6)

# БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

## АШУКАНСТВЫ МАРШАЛКА

Ужо не раз мы падкрэслівалі, што маршалак, які быў прадстаўніком маладога, як у часе першага этапу вясельнага рытуалу — сватоў, так і пазней, выстаўляючы свайму падапечнаму апініі і гаворачы аб стане яго гаспадаркі, вельмі часта не толькі разыходзіўся ў дэталях з праўдай, але і выразна маніў. Вось гэты момант, звязаны з ашуканствамі маршалка, вельмі часта праяўляўся ў фінальных сцэнах вясельнай бяседы ў хаце маладога.

Трэба адзначыць, што як маладая, так і яе бацькі, а таксама ўсе госці з боку маладой у часе вясельнай бяседы ў хаце маладога даведваліся многа аб сапраўдным стане гаспадаркі маладога і аб стане яго сям'і. Не раз выяўлялася, што і маладая і яе бацькі былі выразна ашуканы і ў часе сватоў і ў часе розглядаў. Зразумела, што ў часе вясельнай бяседы госці з боку маладой не маглі яўна, з усёй адкрытасцю і шчырасцю гаварыць аб ашуканствах маладога ці яго бацькоў. Атакі на гаспадароў не змяшчаліся ў добрым тоне і ў рамках правоў гасцей. Аднак не маглі яны не гаварыць аб яўных ашуканствах і ўсю віну за іх стараліся дыпламатычна зваліць на маршалка. Зразумела, што закіды гэтыя адносіліся і да бацькоў маладога, але толькі пасрэдна. Бацькі маладога, слухаючы едкія куплеты, накіраваныя ў адносінах да маршалка, маглі захаваць твар, прыкідваючыся, што яны тут непрычым, хаця ўсім было вядома, што ашуканствы маршалка інспіраваліся не кімсьці іншым, а толькі імі. Варта прывесці некалькі куплетаў песень з тэрыторыі гміны Нараўка:

* ❊ *

Ой, маршалку, што ты лгаў,
Чаму ты праўды не сказаў?
Ой, ты, баламуце, што ты лгаў?
Казаў, што сем кароў, як валоў,
А як прыйшла, застала адну
І тую без рагоў!

* ❊ *

Ой, маршалку, баламуце,
Чаму лгаў?
Ой, чаму ты праўданькі
Не сказаў?
Казаў, што дзесяць кароў
І бычок.
А як прыйшла, адну застала
Без цыцок.
Казаў, е клуня і шпіхлер,
Як з дубоў.
Як прыйшла, застала кучку
Без вуглоў.

Варта падкрэсліць, што прыведзеныя тэксты не заключалі ў сабе непраўдзівай карціны. Наадварот, вельмі часта праз некалькі дзён ці некалькі тыдняў пасля вяселля выяўлялася сапраўдная карціна вялікага ўбоства сям'і, у якую трапіла маладзіца. Драма, звязаная з такім „адкрыццём", выяўлена вельмі добра ў вялікіх цыклах сямейных песень, у якіх глыбока і пераканаўча паказаны цяжкі лёс маладой жанчыны. Аднак гэта ўжо тая сфера фальклорнай праблематыкі, якая не змяшчаецца ў рамках нашай публікацыі.

Вяртаючыся да абурэння маладой, яе бацькоў і іх найбліжэйшай дружыны, варта прывесці выказванне Кацярыны Буйко з вёскі Семяноўка:

„Ат, што там гаварыці аб тым, што ўжэ прашло і вадою сплыло. Ну, але ўжэ калі так вэльмі хочэш, то табе скажу, а сіхібо ты ўсяго гэтаго ні чуў? Напэўна маці табе расказвала. Але калі не, то і я магу сказаці. То гэто, значыт, было так, што маршалок вэльмі часто лгаў і моцно падманваў. Вано відомо, што вон мог лгаці тады, калі малады быў з далёкай вёскі і бацькі маладое нічого ні ведалі ні пра яго гаспадарку, ні пра яго сям'ю. То вано відно, што і ў часі розглідоў бацькі маладого трымаліся ўжэ таго, што набаламуціў маршалок. Калі вон сказаў, што ў іх штэры каровы, то ваны ўжэ на розгляды да свае адное каровы дапазычалі ў суседзяў тры. І так было з усім іншым. То ж бывало і такое, што нават васеле адбывалі ў чужой добруй хаці, а не ў той сваёй, што разваліваласа.

Але ўсё ж такі, калі ўжэ васеле пераезджало ў хату маладого, то бацькі маладое і яе васельнікі патрапілі, калі не ўсё, то тое-сёе дазнацца аб гаспадарцы і сям'і маладого. То, відомо, што кожны ў вёсцы мае ворагоў і гэты ворагі ўсю праўду скажут. То вано бывало так, што хтось з васельнікоў маладое пойдзе па вёсцы, дазнаецца праўды, вернецца і шапне на вухо бацькам маладое або і маладой. Ой, што тады рабіласё! Адразу спахмурнее маці або бацько маладое, а маладая то адразу ў слёзы удэрыт. Але вано ўжэ позно. Бо відомо, што ўжэ і пэрад Богом і пэрад людзьмі вана, гэто значыт маладая, да новае сям'і належыт. То што маглі зрабіці тады? Толькі што ў песнях папалаяць маршалка за тое, што вон жулік і ілгун. А яму хоць бы што, сідзіц і адбрэхуецца толькі. То ж такому можэш наплюваці ў очы, а вон скажэ, што дождж ідзе. Ой, васеле, васеле! Больш было ў ім слёз, чым смеху, от што!"

Вяртаючыся да вясельнай бяседы ў доме маладога, варта сказаць, што заканчвалася яна, як правіла, у аўторак або ў сераду вечарам. Госці з боку маладой, ад'язджаючы дамоў, спявалі папулярную ў многіх раёнах Беласточчыны песню:

Ой, зашумела зелёна дуброва,
Ой, бывай, бывай (імя маладой) здарова.
Ой, зашумела зелёна лешчына,
Роз'езджаецца ўся (імя маладой) радзіна.
Ой, зашумелі зелёны лісточкі,
Роз'езджаюцца ўсе (імя маладой) дружочкі.

Зразумела, што рэакцыяй маладзіцы на ад'езд бацькоў, найбліжэйшай радні, сяброваk маглі быць толькі шчырыя слёзы.

**А. Баршчэўскі**

### ПРЫКАЗКІ

Ажэніцца — пераменіцца.

* ❊ *

Асталася адна ў хаце — не дасць рады кацяняці.

* ❊ *

Вяселле і сарочку знойдзе.

* ❊ *

Дачку аддаваць — ночкі не спаць.

* ❊ *

Дзеўкай была — плакала, замуж выйшла — завыла.

# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Пішу табе і плачу. Два месяцы таму назад я даведаўся, што мая каханая дзяўчына зацяжарыла. І ў канцы лютага мы вырашылі ўзяць шлюб. Я сёлета заканчваю вышэйшую школу, а яна пачала таксама вучыцца ў ВУЗе, але пасля кінула школу і ўжо працуе. Усё рыхтавалася як след і нічога не прадвяшчала бяды. Мой бацька (маці мая ўжо не жыве) купіў мне для дзяўчыны ўжо і пярсцёнак, які я паспеў ёй аддаць, і шлюбныя пярсцёнкі. Калі я на свята паехаў наведаць яго, то ён перадаў сваёй будучай нявестцы ў падарунку яшчэ 20 тысяч злотых, прыгожую замежную блузку, апельсіны, лімоны. Дзяўчына была вельмі задаволеная, хаця, праўда, не падумала пра тое, каб і мне што-небудзь даць пад Новы год. У яе ўсё-такі ёсць і бацька і маці. Але ўсё гэта было няважна. Найважнейшае было тое, што я зноў сустрэўся з маёй каханай (я вучуся ў іншым горадзе). Я стаў прымервацца да вяселля і сказаў, што апрача майго бацькі, брата і сястры прыедзе на вяселле яшчэ пяць асоб з найбліжэйшай нашай сям'і. І тут неспадзявана разыгралася трагедыя. Мая дзяўчына катэгарычна сказала, што „дзесятай вады па кісялі" яна прымаць не будзе і каб я сабе гэта выбіў з галавы. Што гэта абазначала? Абазначала б тое, што фактычна з майго боку не мае права ніхто быць. А бацька ж і на гарэлку ўжо грошы даў! Але дзяўчына мая разбушавалася да такой ступені, нагаварыла мне столькі імпертыненцый, што ў мяне закруцілася ў галаве. Не хачу цябе знаць наогул не хачу дзіцяці, ведаю, што пазбыцца яго ўжо няма як, але як толькі нараджу, аддам у прытулак, бо ў двух пакоях бацькоў, дзе жыве яшчэ сястра, дзіця не змесціцца, і т.д. І навошта яна гэтак, падумаў тады я. Бацька ж мне купіў трохпакаёвую кватэру на ўласнасць, я заканчваю вышэйшую школу і буду мець добра платную прафесію, а тое дзіцятка, якое яшчэ не нарадзілася, я ўжо кахаю ў думках, як не кахаў нікога на свеце.

І вось таму пішу я табе, Сэрцайка, і плачу. Вяселля, ведаю, ужо напэўна не будзе. Але я пачаў думаць, ці наогул варта жаніцца з ёю, калі яна такая самаўпэўненая і бяздушная. Але што рабіць, я ж яе кахаю без памяці. Проста не разумею, што здарылася, бо ўсе мяне заўсёды лічылі за вельмі прыстойнага хлопца, ды і дзяўчаты не мелі падстаў, каб наракаць.

**Міця**

Міця! Твая дзяўчына — пустышка. Відаць, не ацаніла тваіх валёраў, і мае тут на думцы перш за ўсё не тое, што ты прыстойны і не тое, што, як ты намякаеш, добры ў пасцелі. Яе бяда ў тым, што яна не ацаніла твайго добрага характару, твайго шчырага пачуцця да яе і будучага вашага дзіцяці. Грош цана такой дзяўчыне! Замест таго, каб быць шчаслівай, што мае такога хлопца і будзе мець з ім дзіця, то яна ў сваёй самаўпэўненасці і дурноце пазваляе сабе на такое. Напэўна адно магу сказаць — не будзе яна табе добрай жонкай, калі нават дзяўчынай не ўмела быць. Цікава, што яна б заспявала, калі б ты зусім адмовіўся ад шлюбу? Запрапануй ёй, што возьмеш дзіця да сябе. Ёсць жа ў цябе сям'я, ёсць сястра, напэўна яны табе дапамогуць. Можа, тады якраз усё павернецца ў добры, пажаданы табе бок.

А наогул навошта табе такая нікчэмная дзяўчына?

**Сэрцайка**

# СОННІК

59

**Кусаць** або быць пакусаным — перашкоды, цяжкасці.

**Куст** — шчасце ў каханні; густыя кусты, карчы — абарона ад небяспекі; цвітучыя — тваё пачуццё мае ўзаемнасць; карчаваць — даб'ешся свайго.

**Кут** — прыемнае хатняе жыццё.

**Куфаль** — вясёлыя госці, пабіць: п'янства — гэта згуба.

**Куфэрак** — далёкае падарожжа; пакаваць — благія звесткі.

**Кухарка** — добрая апякунка або верны прыяцель; рыхтуе ежу — уладкаванае жыццё.

**Кухня** — смутак для гаспадыні; палявая (вайсковая) — змена месца жыцця.

**Кушнер** — выгада.

Л

**Лабараторыя** — хвароба.

**Лабірынт** — фальшывыя, памылковыя ўяўленні; знайсці выхад з яго — пераможаш перашкоды.

**Лаванда** — маральныя пакуты.

**Лавіна** — няшчасце; быць засыпаным ёю — няўдачы.

**Лагер** для мужчын — добры знак; для жанчын — здрада і няверрнасць.

**Лазарэт** — кароткая хвароба.

**Лазня** — добры стан здароўя; крамяное здароўе.

**Лак** — не вер падлізнікам.

**Лакей** — гарачае каханне; быць ім — патаемная радасць.

**Лакіраваныя** туфлі — траўр, жалоба.

**Ламбард** (крама, дзе застаўляюць рэчы за грошы) — непрыемнае здарэнне; быць у ім — трапіш у залежнасць.

**Ланцуг** залаты — вяселле ў сям'і; жалезны — самотная старасць; цягнуць, несці — клопаты, цяжкасці; разрываць яго — энергіяй заваюеш удачу.

# ЗОРКА
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## КРОШКІ ХЛЕБА

У мінулую зіму кармушка ў мяне была на яблыні каля хаты. А восенню я каля дзвярэй укапаў слупок, да яго прыбіў моцную галіну і на ёй умацаваў кармушку, якую ў школе на ўроках зрабіў мой малады сусед, вучань Іванка Южвінскі. Калі ўжо у снежні белым пухам пасыпала зямлю, пачаў я сыпаць крупы і зярняткі, якія летам сабраў з траў і кустоў і высушыў. У першыя некалькі дзён птушкі не прылятапі, баяліся. Ды і мароз яшчэ не лютаваў. Калі ж мароз пачаў пячы да 30 градусаў, то і птушкі адважыліся прыляцець да маёй кармушкі ля дзвярэй.

Сяджу неяк у хаце і слухаю радыё. І раптам чую: тук-тук-тук — у раму акна. Гляну ў я ў акно і убачыў цудоўную каляровую птушку. Аж рот разявіў і вочы працёр — з'ява гэта ці жывая птушка? Памалу адчыніў дзверы і бачу — яна ўжо ўчапілася кармушкі і дзяўбе скурку ад сала. Пёрышкі ў яе рыжаватыя, хвост і канцы крылаў чорныя, надхвосце белае, на крыле невялікая яскрава-блакітная пляма. Шыя каляровая, блакітна-чырвоная. Цуд, а не птушка, як з казкі! Росту яна вялікага, як варона, каля 40 см у даўжыню. Хто ведае, якая гэта птушка? Назавіце яе.

І вароны ды сарокі прылятаюць да мяне і падкрадваюцца да ежы. Аднойчы бачу, дзесяць варон зляцелі з дымніка і... да кармушкі. Хацеў зрабіць здымак, ды адляцелі, спалохаўшыся скрыпу дзвярэй.

(Працяг на стар. 10)



А гэта здымак з Грабаўца, Дубіцкай гміны, дзе некалькі кармушак вучні зрабілі і павесілі на школьным панадворку. Ля адной з іх мы сфатаграфавалі вучня восьмага класа Уладзіка Тарасюка, які дбайна ачышчае кармушку са снегу.

Фота Я. Чэрнякевіч

Яўген Крамко

## КАРОТКАЕ ВУХА

Аднойчы я нешта майстраваў у двары і раптам чую: мая Алёнка крычыць:

— Дзед, дзядуля! Паглядзі, каго мы злавілі!

У руках унучка трымала зайчыка. Ён прытуліўся да грудзей дзяўчынкі і спалохана зіркаў па баках. Вушкі ляжалі на галаве, кончыкі іх дакраналіся да спіны.

— Паглядзі, дзед, у яго адно вушка кароткае, — сказала Алёнка і кранула зайчыка. Ён заварушыўся, узняў вушы. І сапраўды, адно з іх было карацейшае.

Зайчыка пасадзілі ў клетку. Алёнка з сяброўкамі нарвалі лістоў лопуху, палажылі зайчыку. Але ён нават не дакрануўся да ежы.

— Еш, дурненькі, еш, — угаворвалі яго дзяўчаткі, і адна з іх падсунула ліст бліжэй да зайчыка, але той і не крануўся з месца, толькі прыжмурыў вочы.

— Неслух які, — паскардзілася Алёнка. — Сам папрасіўся да нас, а есці не хоча.

— Як гэта папрасіўся? — спытаў я.

— Мы па ўзлеску ідзем, прыглядаемся, кветак шукаем. А над намі каршун кружыць: то ўзляціць, то ўніз кінецца, пакружыць і зноў угору. Глядзім, аж раптам з травы на сцяжынку выскачыў ён, гэты зайчык, — і да нас. Падбег, прытуліўся да зямлі, дрыжыць, а не ўцякае. Я пачала яго гладзіць. Не бойся, кажу, дурненькі, мы табе крыўды не зробім. А ён туліцца да зямлі і дрыжыць яшчэ больш. А каршун кружыць ды кружыць. Што рабіць? Пакінуць зайчыка? Каршун яго схопіць. Тады Ала кажа: „Давай забярэм, а потым прынясем сюды ды выпусцім“. Вось мы яго і прынеслі.

— І што ж вы будзеце з ім рабіць? — спытаў я. — Можа, трэба занесці ў лес ды пусціць?

— Не, — запярэчыла Алёнка. — Ён жа зусім маленькі, згубіўся ад мамы, загіне адзін. — Яна пастаяла, падумала. — Давай падгадуем, — сказала яна, — а ўжо тады занясем у лес.

Так мы і вырашылі. А празвалі зайчыка Кароткае Вуха.

Больш месяца жыў ён пад наглядам дзяцей. Яны некалькі разоў на дзень прыносілі яму то лісце лопуху, то бацвінне, то моркву, то хлеб. Кароткае Вуха вельмі прывыкла да дзяўчынак — толькі ўгледзіць іх ці пачуе голас каторай, так і бяжыць насустрач. Сядзе на заднія лапкі, пярэднія падыме і чысціць адна аб адну, быццам рыхтуецца ўзяць пачастунак.

Як толькі Кароткае Вуха падрос, дзяўчаткі надумаліся выпусціць яго на волю. Сонечным ліпеньскім ранкам пасадзілі зайчыка ў кошык, накрылі старым фартушком і пайшлі на той самы ўзлесак, дзе знайшлі яго. Вуха ўзняў галаву, выглянуў і зноў прысеў у кошыку.

— Вылазь, дурненькі, у лес бяжы, — сказала адна дзяўчынка.

(Працяг на стар. 10)

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Станіслаў Шушкевіч

### СНЕЖНЫ ДЗЕНЬ

Скачуць дзеці. Шум і смех.
У камы качаюць снег.
І з вясёлаю ўсмешкай
Б'юць адзін другога снежкай.
Толькі снегу быў камяк,
А ўжо вырас дзед-дзівак:
Галава, нібы падушка,
Шапка з'ехала на вушка,
Губы — порхаўка,
Нос, як моркаўка.
Пояс — рэмень наўскасяк,
З боку венічак-галяк.
Крочаць дзеці на абед,
І адзін застаўся дзед.
Верабейчык на плячы
Чыркнуў дзеду:
чык-чык-чык!
Пасля пырхнуў — і няма.
Сыпле белы пух зіма.
Паглядзеў яму ўслед,
Зажурыўся снежны дзед.

### НА КАТКУ

Воз застукаў, як па бруку,
Нарабілі колы гуку.
Закаваў зямлю мароз —
Ён зіму для ўсіх прынёс.
Дзеці выбеглі са школы,
Голас чуецца вясёлы.
Гайда мігам цераз поле,
Хоць мароз у пальцы коле,
Паляцелі нацянькі
Спрабаваць свае канькі.
На адной імчацца ножцы
Па заснежанай дарожцы.
Тут „снягуркі“, там „нажы“ —
Нібы вецер закружыў.
І пусціліся у круг,
Сыпле снег, як белы пух.
Пабяліліся кусты,
Пабяліліся масты,
Пабяліліся пянькі,
Прытупіліся канькі.
І вярнуліся дамоў
Дзеці весела ізноў —
З вопраткай аснежанай,
З тварыкамі свежымі.

### ДОБРЫ ЗАЙКА

Па нізінах, па расе
Зайка ледзьве кош нясе.
Забаўкі малышыку,
А для большых цацкі,
Мёд у гладышыку,
І стаўбунчык кашкі.
Ды яшчэ заечы хлеб.
Зайка лапкай
шкрэб ды шкрэб.
Зайку цяжка. Повен кош.
Зайка босы, без галёш.
Шчэрыць зубы, нема вые.
Шлёпае па лужынах
Зайка перапуджаны.
Спіце, дзеткі. З'явіцца
Добры зайка раніцай.
Усяго ён пакрысе
Вам, маленькім, прынясе.
Будзе вас ён частаваць,
А цяпер, малыя, спаць.

# У НАШАЙ ГРАМАДЦЫ

**Падручнік беларускай мовы для пятага класа**
**Аўтары: Лідзія Гайдук — Мікалай Гайдук**

## ЦВЁРДЫЯ, МЯККІЯ І ЗАЦВЯРДЗЕЛЫЯ ЗЫЧНЫЯ

**(Пачатак у папярэднім нумары)**

**Мяккі знак для абазначэння мяккасці папярэдняга зычнага пішам:**

**1) на канцы слова:** соль, конь, рысь, хадзіць;

**2) у сярэдзіне слова пасля мяккага л перад зычнымі:** польскі, вельмі, пальцы;

**3) у сярэдзіне слова пасля мяккай зычнай перад цвёрдай:** рэдзька, вазьму, касьба. **Мяккі знак у такіх словах пішам і тады, калі пры змене слова гэты цвёрды становіцца мяккім:** рэдзькі, возьмеш, на касьбе.

**Мяккага знака не пішам:**

**1) пасля зацвярдзелых зычных дж, ж, р, ч, ш і ц (калі яно не паходзіць са змякчэння т):** нож, віхор ноч;

**2) пасля зычных б, в, м, п, ф:** голуб, сем, стэп;

**3) пасля н перад ш:** меншы, іншы;

**4) у падвоеных зычных:** восенню, заданне, жыццё.

*1. Прачытайце словы парамі. Скажыце, чаму ў адным з іх пішам ь, а ў другім не пішам.*

Пісьмо — песня, рэдзька — дзверы, вазьму — змена, маленькі — меншы, голька — голле, рэзь — раз.

*2. Прачытайце сказы. Падумайце, дзе замест кропак трэба напісаць мяккі знак. Чаму? Спішыце, словы з мяккім знакам падкрэсліце.*

1. Калі Міхас...ка пачаў бегац... у школу ды чытац... бук...вар..., бац...ка павесялеў яшчэ бол...ш. 2. Мален...кае, круглен...кае да неба дастае. (Вока). 3. Вецер... гнаў з сасон...ніку гарачы пах смалы і змешваў яго з хмел...ным пахам спелай збажыны. 4. На траве, як аган...кі, ружавеюц... вугал...кі, дзень... і ноч... гарац..., палаюц..., смак яны мядовы маюц... (Суніцы). 5. А квяцістыя зоры ўсыпаюц... усё неба, клічуц... шырэй раз...няц... крыл...ле, ляцец... у гэты сус...вет і пазнац... яшчэ няз...веданую радасц...

### СЫН КАЗАЧНАЙ ЗЯМЛІ

Я — беларус, я нарадзіўся
На гэтай казачнай зямлі,
Дзе між лясоў і пушчаў дзікіх
Адвеку продкі мае жылі.

Я — беларус, я ганаруся,
Што маю гэтае імя:
Аб добрай славе Беларусі
У свеце знаюць нездарма!

Я — беларус, і я шчаслівы,
Што маці мову мне дала,
Што родных песень пераліва
І зблізку чую, і здаля.

Я — беларус, і хоць сягоння
Яшчэ малы, але скажу:
Я родам з племя непакорных
І прад бядой не задрыжу!

Я — беларус, і я клянуся,
Што пад сцягамі кумача
Я ні на крок не адступлюся
Ад запаветаў Ільіча!

**Ніл Гіневіч**

*1. Чым павінен ганарыцца кожны беларус?*

*2. Растлумачце, як вы разумееце радкі верша:*

Я — беларус, і я клянуся,
Што пад сцягамі кумача
Я ні на крок не адступлюся
Ад запаветаў Ільіча!

*3. Вызначце ідэю верша.*

*4. Навучыцеся прыгожа чытаць верш і вывучыце яго на памяць.*

**(Працяг са стар. 9)**

### КРОШКІ ХЛЕБА

А яшчэ і зайчыка бачу, як штораз бяжыць вуліцай з лесу і проста прэ на мой панадворак. Удзень, і не баіцца, бачыце, шэранькі дружок. Мы з Іванкам Южвінскім і зайчыку кладзем вязачкі сена. А ён паесць-паесць і падскаквае — гуляе. Нейкі сабака бег па загарадзі, то зайчык не ўцякаў, толькі сядзеў і грыз галлё, на якім была яшчэ кара.

Дзеці, птушкі чакаюць вашай дапамогі. Некалькі крошак хлеба паратуе птушку ад галоднай смерці. Калі жывеце ў блёку, пасыпце за акно, што можаце, — птушачкі будуць дзяўбсці і радаваць вашы вочы. На вёсцы павесце кармушкі, памажыце ў цяжкую зіму — летам яны вам адспяваюць за гэта.

**Андрэй Гаўрылюк**
стражнік прыроды

### ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

Выпаў першы снег. Мірка прапануе Захарку:

— Давай збяжым з урокаў!

— Не трэба рызыкаваць! Сляды выдадуць! — адказвае той.

* ✲ *

Сярод школьнага двара дзеці лепяць снегавіка. У дву-трох метрах убаку стаіць Змітрок.

— Змітрок, ты чаму не дапамагаеш ім? — пытаецца настаўніца.

— Я ў іх за мадэль, — важна адказвае той.

* ✲ *

— Дачушка, ты за канікулы так пахудзела, адзін нос астаўся.

— А што? Раней у мяне было два носы?

* ✲ *

Настаўнік:

— Што летам расшыраецца, а зімой сціскаецца?

Вучань:

— Канікулы.

### ПІШУЦЬ ШКОЛЬНІКІ

*ДАРАГАЯ „ЗОРКА“!*

*Пасылаю Табе мае ўспаміны з зімовых канікул. Канікулы я правяла на вёсцы ў бабулі Фросі і ў цёці Дашы. Буду вельмі рада, калі Ты іх надрукуеш.*

*З прывітаннем твая пастаянная чытачка*
**Дзіна Трус**

#### НА КАНІКУЛАХ

*Зімой я была ў бабулі Фросі ў вёсцы Спігальшчына. Вёска вельмі прыгожая. Вакол вёскі стаіць лес. Было вельмі весела. Потым я паехала ў другую вёску, Холстава. Там жыве мая цёця Даша. Гэта вёска стаіць таксама каля лесу. Вёска вельмі вялікая. У ёй больш ста двароў. Тут я і сустракала Новы год. Было вельмі весела. Ноччу я з сяброўкамі пайшла на вуліцу. Мы гулялі ў снежкі і проста валяліся ў снезе. У вёсцы ёсць клуб. На Новы год там быў канцэрт з песнямі і танцамі. Канцэрт мне вельмі спадабаўся. Я вельмі добра і весела адпачыла.*

**Дзіна Трус,**
**вучаніца 6 класа з Мінска**

*ДАРАГАЯ „ЗОРКА“!*

*„Зорка“, мне вельмі падабаюцца твае апавяданні, вясёлы куточак і адгаданкі. Я вельмі цешуся, калі ты да нас прыходзіш Мы цябе атрымліваем штопятніцу. У нас беларуская мова бывае ў панядзелак, сераду і пятніцу. У нашым класе 20 чалавек і ўсе вучацца беларускай мовы: „Зорка“, я хачу, каб ты запісала два адрасы маіх сябровак у куточак „Пазнаёмімся“.*

**Мажэна Зенюк, вуч. 5 класа,**
**школа ў Вульцы Нурэцкай**

### ПАЗНАЁМІМСЯ

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 9, кв. 19. Лена Жур, 4 клас.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, 2 пер. Р. Люксембург, 8, кв. 40. Оля Шынкевіч, 5 клас.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 12, кв. 8. Таня Мамеева, 5 клас.

* ✲ *

БССР, 220051, г. Мінск-51, вул. Грушэўская, 77-А, кв. 2. Яна Ігнатовіч, 4 клас.

* ✲ *

БССР, 220051, г. Мінск-51, пр. Дзяржынскага, 5-А, кв. 7. Ала Сцепуцько, 5 клас.

* ✲ *

БССР, 220051, г. Мінск-51, вул. Прамая, 6, кв. 2. Таня Алімава, 7 клас.

* ✲ *

БССР, 220051, г. Мінск-51, вул. Смірнова, 21, кв. 7. Оля Раманко, 7 клас.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 79, кв. 40. Света Чайкоўская, 3 клас.

* ✲ *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Лермантава, 22, кв. 19. Оля Гардзіяс, 4 клас.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Каржа, 4, кв. 18. Юля Дамброўская, 4 клас.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Р. Люксембург, 108, кв. 13. Наташа Скакоўская, 4 клас.

**(Працяг са стар. 9)**

### КАРОТКАЕ ВУХА

— Тут табе лепш будзе, вылазь, — сказала другая.

Але Кароткае Вуха і не крануўся з месца, яшчэ ніжэй прыгнуўся ў кошыку.

— Давай яго выкулім, — прапанавала Алёнка.

— Давай, давай, — загаманілі дзяўчаткі.

Апынуўшыся на зямлі, упарты зайчык агледзеўся навокал і нетаропка пабег у бок лесу, схаваўся за першымі кустамі ядлоўцу.

— Бывай, Кароткае Вуха! Асцерагайся каршуна! Бегай хутчэй! — крычалі дзяўчаткі.

Неяк у канцы жніўня Алёнка з сяброўкамі выбраліся ў грыбы.

Выйшлі на ўзлесак. Раптам Алёнка насцярожылася:

— Ціха! Чуеце? Здаецца, сабака гоніць зайца.

Усе сціхлі.

І сапраўды — у лесе чулася: „Ях! Ях! Ях!...“

А далей было, як у казцы.

Па сцежцы да дзяўчатак імчаў заяц. Не дабег крокаў тры, прысеў, стуліў вушы і прыпаў да зямлі.

Тут з лесу, прынюхваючыся да зямлі, выскачыў сабака.

Дзяўчаткі кінуліся да зайца і акружылі яго. Ён не ўцякаў, яшчэ шчыльней туліўся да зямлі. Бакі яго то ўздымаліся, то ападалі — так ён спалохана дыхаў. Калі Алёнка ўзяла зайца на рукі, шэры дрыжэў. З рук не вырываўся, а прытуліўся да грудзей дзяўчынкі.

— Дзяўчаты, глядзіце, гэта ж Кароткае Вуха! — сказала Алёнка, падняўшы зайцавы вушы.

І сапраўды — адно вуха было карацейшае.




Косткі даміно пакладзены так, што ў кожным напрамку ёсць па 11 вочак. Такі самы квадрат складзі з костак, якія ты бачыш побач, але так, каб у кожным напрамку было па восем вочак.



Адрас рэдакцыі: „Зорка“ 15-950 Białystok, ul Wesołowskiego 1

3 суседскага агародчыка

## ЛЮДЗІ-СУСЕДЗІ

Што ні кажыце, а добрыя суседзі — вялікае шчасце. Мне ў гэтым сэнсе надта пашанцавала.

На адной пляцоўцы са мной жыве Антось Гаўрылавіч — добры, сціплы чалавек. Працуе недзе на заводзе. Сям'я вялікая, дружная. У іх кватэры ёсць тэлефон. Таму мы часта там бываем. Асабліва мая цешча. Яе старая сяброўка атрымала кватэру на другім канцы горада, і асноўныя сродкі зносін паміж імі — тэлефон. Па паўтары гадзіны праседжвае цешча з трубкай у руках. І нічога. Антось Гаўрылавіч і яго сям'я церпяць, нават і выгляду не падаюць, што мы іх турбуем.

Другі сусед — Сямён Данілавіч. Энергічны, дзелавы, любіць тэхніку, а дакладней — уласныя „Жыгулі". Ну і мы, зразумела, не абыходзім яго бокам. То на базар цешча з'ездзіць з суседам, то жонка мая на работу пад'едзе, то мне з ім па дарозе...

Трэці сусед наогул золата. Максім Іванавіч выдатны рыбак, грыбнік, ягаднік. Наловіць рыбы — я ўжо тут як тут. І юшкі адведаю. І да юшкі нешта перападзе. Ну, а калі грыбоў ці ягад набярэ, то разам са мною ў Максіма Іванавіча ўвесь вечар сядзяць і цешча, і жонка, і абедзве мае дачкі. Наядзімся і дадому яшчэ прынясём. Так што, можна сказаць, дарогу ў лес не ведаючы, мы дароў прыроды на зіму назапашваем нават больш, чым тыя, хто з лесу не вылазіць.

Вось толькі нядаўна пасяліўся ў нашым пад'ездзе Альберт Круцёлкін. Ну і тып, я вам скажу. Такі ўжо нахабны, што далей няма куды. То грошай прыйдзе пазычыць, то спытае, колькі часу, бо ў яго, бачыце, гадзіннік сапсаваўся. Відаць, давядзецца мне кватэру мяняць.

**Міхась Кавалёў**



Без слоў.





### СПАЗНІЎСЯ

Да прадаўшчыка латарэйных білетаў падбягае задрыпанец.

— Які галоўны выйгрыш?

— Мільён.

— А калі тыраж?

— Праз тыдзень.

— Позна! Мне гэта сума патрэбна на суботу!

### ЗАБЫВАЕ

Старая Задрыкоўская ўваходзіць у аптэку і пытае:

— Скажыце, у вас ёсць ацыдзіум ацэціласаліцылум?

— Вы хочаце сказаць „аспірын"? — гаворыць аптэкар.

— Так, сапраўды, аспірын. Увесь час забываю гэту назву...

### ЯШЧЭ ЛЕПШ

— Пазыч сотню.

— Мне ўжо надакучыла пазычаць табе сотні.

— Тады дай тысячу.

### СПОСАБ

Пасля вячэры муж гаворыць жонцы:

— Табе трэба перафарбавацца на бландзінку.

— Навошта?

— Я чытаў, што жанчыны са светлымі валасамі дасканала гатуюць.

3 нататак доктара Знахарука

„Цiск у хворага павялічыўся ніжэй нормы."



Крык моды.

Да людаедаў рэдка прыходзілі госці, таму сустракалі іх нязвыкла радасна.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Суддзя пытае мацёрага злачынцу:

— Ці зрабілі вы хоць калінебудзь людзям нешта добрае?!

— О так, ваша чэсць! Дзякуючы мне дзесяць дэтэктываў увесь час мелі работу! — горда адказвае той.

✻

Амерыканскі турыст ходзіць з гідам па Парыжы.

— Усё тут у вас такое маленькае, сціснутае, — гаворыць ён. — Гэты будынак, напрыклад, быў бы ў Амерыцы разоў у дзесяць вышэйшым.

— О, канешне, сэр! Гэта псіхіятрычная клініка.

✻

Запіска на халадзільніку, адрасаваная мужу, які прыйшоў дадому позна:

„Твая катлета ў страўніку сабакі!"

## МІНІВЕРШЫ

### ЭКАНАМІЧНЫ „ЭФЕКТ"

У цяслярскай справе
быў мастак Пахом:
каб паправіць браму,
разламаў ён дом.

### ПАСКОРАНЫ МЕТАД

Мала быў ляснічым Проў,
наламаў жа многа дроў.

### МАДЭРНАВАЕ ДЗІЦЯ

Гэта — хлопчык.
А хто — тата?
Не знайсці без адваката.

**Хведар Жычка**

3 „Весніка Задрыпоніі"

### ВЫНАХОДСТВА СТАГОДДЗЯ

У Ачуцінаве прыдуманы бумажнік з зязюляй. Калі канчаюцца грошы, з бумажніка выскаквае зязюля і гаворыць: „Ку-ку".

### АБ'ЯВА

Сёння ў філармоніі адбудзецца канцэрт сімфанічнай музыкі: Бах, Бетховен, Вівальдзі. Уваход са сваімі інструментамі.



Чаго толькі не ўбачыш у цырку...

### ПРОВАДЫ

Сын гасцяваў у бацькоў. Збіраючыся ад'язджаць, ён спыніўся ў дзвярах і спытаў:

— Я нічога не забыў?

— Каб нешта забыць, трэба было „нешта" прывезці! — заўважыў бацька!

### НАШЫ ДЗЕЦІ

— Выхавацельніца казала, што будзе салодкі стол. Я лізнула — ён зусім не салодкі.

### ВАРУХНІ ГАЛАВОЮ



На кожным з 8 малюнкаў адсутнічае па адной дэталі, якая ёсць на астатніх малюнках. Знайдзіце іх.

## Курʼёзы

### У САЛАУХІНА

У пачатку пяцідзесятых гадоў Н. быў вельмі вядомым і актыўным журналістам. Ён асвятляў у рэпартажах і нарысах адну, як тады называлі, вялікую пабудову „камунізма". Урэшце па яго сцэнарыю быў зроблены вялікі дакументальны кінафільм аб гэтай пабудове.

Журналісцкая актыўнасць заўсёды звязана з незлічонымі званкамі з рэдакцый.

Аднойчы Н., засеўшы за работу, загадаў сваім хатнім:

— Адкуль бы ні званілі і хто б ні званіў — мяне няма дома. І наогул няма ў Маскве.

Вечарам жонка яму паведаміла:

— Некалькі разоў пытаў адзін і той жа голас. Ён пакінуў свой нумар і прасіў абавязкова пазваніць.

Н. пазваніў і спытаў, у чым справа.

— Вельмі шкада, — сказалі яму, — што вас не аказалася ў Маскве. У Іосіфа Вісарыёнавіча быў прагляд фільма, і мы думалі, што вам як аўтару сцэнарыя было б цікава прысутнічаць...

З тых пор Н. заўсёды падыходзіў да тэлефона, ды ёсць рэчы, якія не паўтараюцца.



Калі ў цябе грунт знікае з-пад ног, значыць, хосьці пад цябе капае.